# БЮЛЕТЭНЬ

ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТУ БЕЛАРУСКАГА Т-ВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

Сьнежань 1928 г.

№ 8





X ГОД БССР

SOCIETE DE LA CROIX ROUGE DE LA RUTHENIE-BLANCHE BULLETIN DE LA COMITE CENTRAL

# ЗЬМЕСТ



## На мясцох



## Афіцыйны аддзел

БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

Société de la Croix Rouge de la Ruthénie Blanche
Bulletin № 8—1928



# БЮЛЕТЭНЬ

—( № 8 )—

Сьнежань 1928 г.

ВЫДАНЬНЕ ЦК БЕЛАРУСКАГА Т-ва ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ
МЕНСК 1928

# Вялікае сьвята.

Гэты нумар „Бюлетэня“ Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжы выходзіць пры канцы дзесятага году існаваньня Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

З пачуцьцем глыбокага задавальненьня вітае Рэдакцыя „Бюлетэня“ сваіх чытачоў і ўсю чырвона-крыжную грамадзкасьць з гэтым вялікім сьвятам. Беларускі Чырвоны Крыж—гэта дзіцё Кастрычніка, адно з дасягненьняў утворанай 10 год таму назад Савецкай Беларусі. Толькі пралетарская рэвалюцыя, якая прывяла да ўлады працоўныя масы, толькі Савецкі ўрад, які замацаваўся на беларускіх абшарах,—толькі яны далі магчымасьць работнікам і сялянам нашае краіны гэтак буйна выявіць сваю ініцыятыву ў галіне барацьбы за новае, здаровае жыцьцё. Толькі будаваньне соцыялістычнае гаспадаркі падводзіць моцную падваліну пад гэтую працу. Вось чаму Беларускае Т-ва Чырвонага Крыжу, ад Цэнтральнага Камітэту да ячэйкі на вёсцы,—радасна сустракае дзень 1 студзеня і сьвяткуе дзесяцігодзьдзе абвешчаньня БССР.

Той факт, што Савецкая Беларусь, створаная рукамі рабочых і сялян 10 год таму назад, сёньня ў паўнаце сваіх сіл уступае ў новае дзесяцігодзьдзе,—надае ўсім нам веры у будучыню. Разам з далейшым пасьпяховым ростам БССР,—будзе расьці і мацнець нашае Таварыства. У сувязі з творчай працай па будаўніцтву сацыялізму ў нашай краіне, будзем і мы ўсё шырэй разгортываць нашую дзейнасьць па барацьбе за здаровы быт і санітарную абарону працоўных.

У сьвядомасьці гэткай сувязнасьці сустракае чырвона-крыжная грамада сьвята 1 студзеня і абяцае ўсе сілы далажыць да таго, каб з гонарам выканаць свае абавязкі прад рабоча-сялянскай Савецкай Беларусьсю да чарговага 10-цігодзьдзя яе абвешчаньня.

**Рэдакцыя.**

# Больш адказнасьці ў сваёй працы.

Апошні Пленум Цэнтральнага К-ту Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу спыніў сваю ўвагу на пытаньнях мэтадычнай праверкі выкананьня тых рашэньняў, якія раней прымаліся і якія стаялі ў праграме бягучае працы. Не выпадкова, што іменна цяпер мы шчыльна падходзім да гэтых важнейшых пытаньняў нашае штодзённае практыкі. Мы ўступаем у гэткі пэрыяд нашае працы, калі трэба менш займацца прыняцьцем усё новых і новых рэзалюцый, а калі трэба больш уважліва і паглыблена займацца перапрацоўкай таго, што ўжо прынята, і таго, што вымагае безадкладнага зьдзейсьненьня.

Можна прывесьці шмат прыкладаў, калі цэлы шэраг прыгожых рашэньняў супакойна ляжыць, і мы ў грудах нанова прынятага забываемся на тое, што ўжо даўно разьбіралася і аб чым сваечасова давалася тая або іншая дырэктыва.

Асабліва рэзка абыякае адношаньне да мінулага заўважаецца з боку тых, хто ўнове прыйшоў да працы і хто яшчэ ня ў курсе ўсіх старых традыцый, зьвязаных з данай дзейнасьцю. Прычына ўсяго гэтага крыецца ў тым, што ў нас надзвычайна цякучы склад працаўнікоў і нанова прыйшоўшыя на працу ня хочуць лічыцца са спадчынай, якая засталася ім ад папярэдніх работнікаў. Замест таго, каб дэтальна азнаёміцца з тым, што было, пераглядзець дакумэнты, характарызуючыя зробленую раней працу, пачынаецца „скоропалительное“ саматужніцтва і ў выніку—усё пачынай спачатку. Нам трэба ўзгадаваць у сябе гэтае пачуцьцё сувязнасьці і абавязковасьці выкананьня таго, што не зьяўляецца адмененым, бо толькі ў гэтым і можа быць гарантыя таго, што справа, якую мы праводзім, не захірэе, а наадварот, атрымае належнае разьвіцьцё на будучыну.

Усе нашыя справаздачы трэба цяпер будаваць у разрэзе фактычнага выкананьня таго, што раней было вырашана і пры ацэнцы выкананьня трэба падыходзіць не фармальна, а крытычна. Важна ня толькі фармальнае выкананьне, а тэхніка гэтага выкананьня. Трэба таксама ведаць дзеля якіх прычын

пэўныя рашэньні рабіліся толькі на паперы. Толькі тады ў нас будзе большая аўтарытэтнасьць перад масай і мы будзем прыймаць тыя рашэньні, якія зьяўляюцца запраўды жыцьцёвымі і цалкам адказваюць бягучым патрэбам.

Для чоткасьці ў працы неабходна таксама і строгая грамадзкая дысцыпліна. Нельга-ж цярпець гэткія факты, калі на цэльны шэраг запытаньняў Цэнтральны Камітэт не атрымлівае адказу і калі ў сувязі з гэтым спыняецца ўсялякая нармальная праца і пачынаецца падбор лічбаў і ўгрунтаваньняў, як кажуць са сталі. Гэткія здарэньні наглядаліся, прыкладам, пры апрацоўцы каштарысу Цэнтральнага К-ту, калі мясцовыя Камітэты абсалютна ігнаравалі тэрміны прадстаўленьня патрэбных вестак і за выключэньнем толькі некаторых Акруговых Камітэтаў, нават зусім не прадставілі таго, аб чым іх прасілі. Гэткае нягоднае аднашэньне да такога важнага пытаньня, як складаньне бюджэту—самага жыцьцёвага і практычна патрэбнага ў нашай працы, характарызуе ўсю ненармальнасьць, перажываную намі ў гэтай справе—і прымушае біць трывогу. Калі мы ня ўжывем рашучых мер барацьбы з гэтай расхлябанасьцю, мы далёка не паедзем і ў выніку можам паставіць пад удар усю з гэткімі цяжкасьцямі нарыхтаваную працу.

Яшчэ адзін факт, на які нельга ня зьвярнуць увагі—гэта перанясеньне ўсёй цяжкасьці работы са старшыні на сэкратара. Ня кажучы ўжо аб тым, што ў цэлым шэрагу выпадкаў сэкратары не зьяўляюцца выбранымі працаўнікамі, а нанятымі для тэхнічнага выкананьня заданьняў Прэзыдыуму, апрача ўсяго іншага зусім ненармальна адшываць старшыню ад адказнасьці і ставіць яго толькі для ідэйнага кіраўніцтва. Мы вельмі часта ўкладаем у гэтае паняцьце нікчэмны зьмест і пад ценем гэтага слова імкнемся ўкрыць сваю бязьдзейнасьць і сваю нягоднасьць у працы. Справа зусім ня ў тым, каб сказаць пару прыгожых фраз аб будаўніцтве сацыялізму ў адсталай краіне, а справа ў тым, каб уласным прыкладам паказаць, як змагацца з гэтай адсталасьцю, уласнымі рукамі навучыць працаўніка ў штодзённым жыцьці правільна прымаць і праводзіць рашэньні. Толькі тады, калі сам старшыня Акруговага К-ту, закасаўшы рукавы, пагрузіцца ў практычнае вырашэньне важнейшых пытаньняў, толькі тады будзе гарантавана точнасьць правядзеньня намечанага пляну.

Зразумела, мы ведаем, што іншы раз не па злой волі, а ў сілу надзвычайнай перагружанасьці, трудна сканцэнтравацца на чым-небудзь адным,—вас шарпаюць ва ўсе бакі і вы мімаволі раскідаецеся. Але, улічваючы ўсё гэта, трэба так паставіць работу, каб гэтае раскідваньне па магчымасьці ня прыймала катастрафічных памераў і каб можна было на чым-

небудзь галоўнейшым усё-ж такі спыніцца больш уважліва. У гэтым і сутнасьць ідэйнага кіраўніцтва—здольнасьць аддзяліць галоўнае ад менш важнага і ўменьне так расплянаваць працу, каб нават у найгоршых варунках знайсьці выхад са створонага становішча.

Нашая Чырвона-Крыжная арганізацыя расьце, усё больш і больш пашыраецца і разьвіваецца,—тым больш задач ставіцца перад намі ў сэнсе лепшай пастаноўкі кіраўніцтва гэтай арганізацыяй.

Калі мы здолеем зьдзейсьніць больш уважлівае адношаньне да сувязнасьці ў працы, у праверцы выкананьня нашых пастаноў, больш асьцярожныя плянаваньні на будучыню і адказнасьць у грамадзкай дысцыпліне,—мы выканаем перад рабочымі і сялянамі, якія даверылі нам кіраўніцтва, свой доўг і адважна пойдзем наперад да новых культурных заваёў пралетарскай рэвалюцыі.

**М. Барсукоў.**

---



Удзел Віцебскага Акр. Кам. у паходзе. Адпраўка сан-дружыны на станцыю.

# Дапамагаем беларускай беднаце ў Латвіі.

Беларускі Чырвоны Крыж, які вырас сёньня ўжо ў паважнейшую грамадзкую арганізацыю з 40 тысячамі сяброў,—вядзе вялізную работу па аздараўленьні быту і жыцьця працоўных Савецкай Беларусі. Не адна тысяча рабочых і сялян ахоплена працай Таварыства і на справе адчувае карысьць ад супрацоўніцтва ў ім. Бязупынна ўзьнікаюць Гурткі Першай Дапамогі, ствараюцца Санітарныя Дружыны, перасоўныя габінэты наведваюць самыя глухія куткі нашае савецкае краіны, найдалей ад цэнтру адбываецца санітарная прапаганда,—усюды пад сьцягам Чырвонага Крыжу працоўныя масы змагаюцца з ранейшай цемрай, забабонамі і брудам жыцьця; усё больш пільнуюць працоўныя чыстату, берагаюць сваё здароўе,—ад папа і знахара адыходзяць да настаўніка і доктара.

Паказаны бок дзейнасьці Беларускага Чырвонага Крыжу становіць яго галоўную, асноўную задачу. Тут каля гэтых проблем, у барацьбе за здаровы і чысты быт рабочага і селяніна, ён набывае свой галоўны „грамадзкі капітал“,—тую папулярнасьць, рост якой за апошнія гады гэтак радуе кожнага з нас, працуючых у чырвона-крыжных арганізацыях.

Але ёсьць і другі бок яго дзейнасьці,—той бок, які ў штодзённым жыцьці ня так заўважаецца, але які па сваёй грамадзкай значнасьці нікольки ня меншы за першы. Я маю на ўвазе дапамогу, з якой Беларускі Чырвоны Крыж прыходзіць дзецям рабоча-сялянскай беднаты на захад ад савецкае мяжы,—у Заходняй Беларусі. За мінулыя два гады гэтая дапамога параўнаўча не малая,—і, як засьведчыў адзін з работнікаў, што прыехаў надовячы да нас у Менск з Горадзеншчыны,—гэтай дапамогай уратованы ад голаду, абуты і адзеты не адзін хлапец і не адна вучаніца і ў Вільні і наогул у заходня-беларускіх школах.

Гэта пачэсны і шчасьлівы абавязак Беларускага Чырвонага Крыжу, як міжнароднай грамадзкай арганізацыі, несьці сваю дапамогу ня толькі тым, хто патрабуе яе тут, у межах нашае Савецкае Беларусі,—але і там, на захадзе, у Беларусі Заходняй.

Мінулым месяцам Беларускі Чырвоны Крыж зрабіў у гэтым напрамку яшчэ адно дасягненьне. Мова на гэты раз ідзе аб матар'яльнай дапамозе вучням беднаты, што навучаецца ў беларускіх школах у Латвіі.

Якое становішча гэтых дзяцей?

Адкажам на гэтае запытаньне тымі весткамі, якія Чырвоны Крыж мае беспасрэдна з Латвіі.

„Вось ужо чытары гады,—піша адзін з тамтэйшых беларускіх настаўнікаў,—як латыскія шавіністычна-рэакцыйныя колы павялі змаганьне з беларускім пралетарызаваным сялянствам Латгаліі *) дамагаючыся праз школу дапяць дзьвёх мэт: даць дзецям клерыкальна-фашыстаўскае выхаваньне і разам з тым здэнацыяналізаваць іх і аблатышыць.

„У гэтых мэтах цэлы шэраг беларускіх школ (Зілупская, Пасінская, Шнекаўская і інш.) зачынены, а на іх мейсца адчынены, сярод беларускага жыхарства і ў самай гушчы яго, школы латыскія, дзе выкладаньне ідзе на латыскай мове".

„Каб прыцягнуць сюды, у гэтыя латыскія школы дзяцей беларускай беднаты, якой тутака дужа многа (Латгалія пастаўляе беларускіх батракоў на ўсю Латвію),—у гэтых школах пабудаваны аграмадныя памяшканьні з інтэрнатамі, дзе дзяцей за ўрадовы кошт поюць і кормяць. Неўраджай гэтага году і звычайнае малазямельле прымушае беларускіх бацькоў пасылаць сюды дзяцей, дзе яны культурна гібеюць і разам з тым выхоўваюцца ў варожых настроях, робячыся апораю латыскаму фашызму і буржуазіі.

„Прабавалі мы, піша настаўнік, змагацца з гэтым шкодным зьявішчам, дамагаючыся, каб у гэтых школах была ўведзяна беларуская мова, хаця-ж бы як прадмет выкладаньня і каб у гэтыя школы былі прызначаны настаўнікі-беларусы, аднак да гэтага часу гэтыя дамаганьні не здаволяны і па ўсіх даных здаволены ня будуць.

„Беларускія школы наўкруг гэтых латыскіх пачынаюць мізарнець. Яны бязумоўна будуць з кожным годам усё больш занепадаць, а потым будуць зусім зьліквідаваны, калі грамадзянства Савецкай Беларусі ня зробіць нам моцнай духовай і матар'яльнай дапамогі.

„Вось чаму мы просім Беларускі Чырвоны Крыж, як грамадзкую арганізацыю, прыйсьці нам на дапамогу. Распачнеце кампанію ў прэсе, зьбірайце грошы на тое, каб дапамагчы

---

*) „Латгалія" гэта ўсходняя частка Латвійскае рэспублікі, у якой значнай меншасьцю зьяўляюцца беларусы. Галоўны горад Латгаліі — Дзьвінск. У пералічаных вышэй валасьцёх Латгаліі беларусы ствараюць большасьць насельніцтва; усяго ў Латвіі налічваецца да 100.000 беларусаў.

нашым школам і бедным дзецям падручнікамі, гарачымі сьнеданьнямі, вопраткай, абуткам.

„Становішча нашае бязьмерна трагічнае, бо самі мы, дзякуючы таму, што нашае грамадзянства тутака вельмі беднае,— дапамагчы сабе ня маем магчымасьці“.

Вось голас, які даходзіць да нас з таго боку мяжы, з боку панаваньня капіталу!

Беларускі Чырвоны Крыж не заставіў сябе доўга прасіць,— і сёньня мы ўжо можам спадзявацца, што тая дапамога, аб якой прасілі нашую савецкую грамадзкасьць нашы браты на захадзе,—імі ўжо атрымана. ЦК Бел. Чыр. Крыжу ў першую чаргу забясьпечыў бяднейшых вучняў беларускіх школ у Латвіі школьнымі падручнікамі і наогул патрэбнымі для навукі кніжкамі.

Ужо ў Цэнтр. Камітэце т-ва атрымана падзяка за зробленую дапамогу, пры чым зазначана, што яна тым больш карысная, што прыйшла ў час, акурат пры пачатку навучальнага году.

Трэба думаць, што і на будучыну Беларускі Чырвоны Крыж не пакіне бяз увагі патрэбы гэтае дзіцячае масы і дасьць ёй тое, што даць будзе ў сілах.

**Аляксандр Цьвікевіч.**

---




Гурток першай дапамогі пры польскай школе ў гор. Віцебску.

# 2-гі пленум Цэнтральнага Камітэту.

2-гі Пленум ЦК Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу, які адбыўся 26-27 кастрычніка г.-г., прайшоў вельмі актыўна. Быў заслуханы справаздачны даклад Прэзыдыуму, зроблены тав. М. Барсуковым, у якім дакладзе былі дадзены вычэрпваючыя весткі аб працы за час з 7 мая да 25 кастрычніка,—г. зн. ад моманту II-га Ўсебеларускага Зьезду Т-ва. Побач з аглядам дзейнасьці па лініі ўнутранай працы, прысутныя члены ЦК былі азнаёмлены з работай Беларускага Чырвонага Крыжу заграніцай, як па лініі дапамогі бяднейшым дзецям Заходняй Беларусі, так і па ўдзелу Т-ва ў Міжнародным Кангрэсе Сацыяльнай Гігіены ў Парыжы.

Пленум уважліва спыніў сваю ўвагу на пытаньні Школы мэдычных сясьцёр, якая справа па сваіх памерах і па свайму агульнаму значэньню мае першараднае значэньне для Таварыства. Усіх вельмі ўсьцешыў той факт, што ЦК урэшці дабіўся ліквідацыі таго „бяспрытульнага“ становішча, у якім была раней школа, як у сэнсе мейсца для сваіх заняткаў, так, асабліва, у сэнсе адсутнасьці патрэбнага інтэрнату для студэнтак. Пасьля ўсіх цяжкасьцяў, цяпер можна сказаць, што ЦК поўнасьцю забясьпечыў бесьперабойнае навучаньне ў школе і нармальнае жыцьцё яе слухачак.

Жвавыя спрэчкі выклікала справа дэцэнтралізацыі бюджэту Таварыства, пытаньне аб чым было, як ведама, вырашана на 2-гім Зьезьдзе Таварыства ў маю месяцы г. г. У сувязі з дэцэнтралізацыяй бюджэта і тымі пажаданьнямі, якія былі выказаны пры гэтым прадстаўнікамі паасобных Акруговых Камітэтаў, прыйшлося ў значнай меры перагледзіць амаль ужо складзеныя аканчальна каштарысы. Пры гэтым Пленум асабліва цьвёрда падкрэсьліў патрэбу грамадзкай дысцыпліны ў адносінах паміж ЦК і мясцовымі арганізацыямі, справядліва зазначыўшы, што без падобнай дысцыпліны немагчыма ніякая плянамерная работа. Прынцыпы рашучай праверкі выкананьня раней прынятых рашэньняў, фармуляваны т. Барсуковым, былі прыняты Пленумам без абумоўленьняў.

Дадатным момантам працы Пленуму зьявілася ўрачыстая перадача Цэнтральным Камітэтам арганізаванай ім Палiклінікі

зубных хваробаў,—Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя. Сьвядомасьць карыснай ініцыятывы, ператворанай у чын,—унесла патрэбную бадзёрасьць у працу Таварыства. Як-ні-як, але роля нашага Чырвонага Крыжу ў арганізацыі існуючага сёньня ў Менску Одонтолёгічнага Інстытуту—выдатнейшая і ніколі ня будзе сьцёрта з памяці.

Выдатнай падзеяй у жыцьці Таварыства трэба лічыць пастанову Пленума аб дапамозе бяднейшым дзецям беларускіх школ у Латвіі, якая дапамога зроблена шляхам забясьпечаньня школ падручнікамі і наогул кнігамі. Тая падзяка, якую прынёс Пленуму адзін з работнікаў Заходняй Беларусі, прыехаўшы адтуль, і тыя гарачыя аплёдысмэнты, якімі Пленум сустрэў гэтую падзяку, зьявіліся лепшым доказам братэрскай сувязі, што зьдзяйсьняе і ўзмацоўвае Беларускі Чырвоны Крыж з працоўнымі Заходняй Беларусі.

Пільна займаўся Пленум пытаньнямі аб далейшым разгортваньні справы санітарнай абароны і падрыхтоўкі працоўных у гэтым кірунку, справай масавай сан-асьветы, росту гурткоў і дружын першай дапамогі, пытаньнямі аб канкрэтнай праграме дзейнасьці нізавых арганізацый, барацьбы з п'янствам і наогул аздараўленьнем быту працоўных.

Цікавай навіной у працах Пленуму зьявілася нарада сэкратароў Акруговых Камітэтаў, якая адбылася на другі дзень пасьля афіцыяльнага сканчэньня прац Пленуму. Практычным абгаварэньнем цэльнага шэрагу арганізацыйных пытаньняў, нарада дала ў рукі яе ўдзельнікаў добрую зброю для далейшай работы.

Сэкратар Акруговага Камітэту, гэта, як вядома, адна з галоўных пружын у дзейнасьці нашага Таварыства на мясцох. Да апошняга дню яна ня была як сьлед „накручанай", і таму мы заўважалі (асабліва апошнім часам) нейкую аслабленасьць і неахайнасьць у працы мясцовых арганізацый. Цяпер, калі сэкратары Акруг. К-таў, шляхам асабістага ўзаемнага спатканьня і шляхам грунтоўнага абгаварэньня найбольш пякучых момантаў сваёй дзейнасьці, маглі самі сябе праверыць, узаемна скрытыкаваць пастаноўку работы „суседа", пазнаёміцца і схапіць маштабы і кірункі работы ў цэлым,—пасьля гэткага, маўляў, узаемнага экзамену—ранейшыя заганы, пасыўнасьць, адарванасьць і работа „на свой капыл" павінны быць ліквідаваны.

Пленум распрацаваў і зацьвердзіў плян перавыбарчай кампаніі Беларускага Чырвонага Крыжу, якая кампанія, разам са зборам на санітарны самалёт і „Тыднем Чырвонага Крыжу" павінна з пачаткам будучага году яшчэ больш і яшчэ шырэй разгарнуць прад ім дарогу.

**Алесь Галынец.**

# НА МЯСЦОХ.

## Гурток першае дапамогі пры ж. д. клюбе Аршанскага вузла.

Па ініцыятыве дэлегацкага сходу Аршанскага вузла МББ ж. д., арганізаваўся 16 мая Гурток Першае Дапамогі. Жадаючых аказалася каля 50-ці асоб. Запісаліся работніцы і жонкі рабочых і служачых вузла. У Акруговым Камітэце Чырвонага Крыжу былі атрыманы патрэбныя кніжкі, а праз тыдзень ужо пачаліся заняткі. Зьявіліся ня ўсе, аднак адразу-жа аформілася ядро ў 35 чалавек, рэшта адсеялася. Зацікаўленасьць справай з боку застаўшыхся была вялікая з першых жа разоў. Апрача заняткаў, практыкаваліся экскурсіі ў больніцу, амбуляторыю, дыспансэр і інш. лекавыя ўстановы. Цікава пры гэтым, што, ня гледзячы на трохвёрстную адлегласьць гэтых устаноў ад вузла, усе зьяўляліся заўсёды акуратна, што нават зьдзіўляла сваёй нечаканасьцю мэд. працаўнікоў. Умелы, не казённы падыход доктара-кіраўніка і цікавы зьмест працы Гурткоў—зрабілі сваё: гурток прадстаўляў сабой аб'яднанае на жывой справе, дысцыплінаванае цэлае. Праверка ведаў сяброў Гуртка паказала добрую пасьпяховасьць.

Ярка пацьвярджае апошняе меўшы месца некалькі пазьней гэткі сапраўдны факт: сямігадовая дзяўчынка аднаго разу парэзала глыбока нагу аб бутэлячнае шкло. Кроў біла струмянём. Зьбегшыяся жанчыны пачалі прымяняць свае, далёка не санітарныя мэтады. Апынуўшаяся якраз на месцы здарэньня адна з скончыўшых гурток схапіла кавалак матэрыі, туга перавязала нагу вышэй раны, адначасова тлумачачы, што яна робіць. Спыніўшы кроў і перавязаўшы рану, зрабілі насілкі і ў трох, трымаючы даверху нагу дзяўчынкі, аднесьлі яе ў прыймовы пакой.

Урачыста прайшоў выпуск Гуртку. Запрасілі аркестр. Быў зроблен даклад: „Міжнароднае становішча і задачы Чырвонага Крыжу“. Пасьля: прывітаньні, невялікія падарункі, кіно. Прысутнічала каля 600—700 чалавек.

Арганізаваная з Гуртку ячэйка Чырвонага Крыжу разгарнула канкрэтную працу. На рагулярна праходзячых сходах прапрацаваны пытаньні: „Статут БТЧК“, „Зьмест працы ячэйкі“, „Культурная рэвалюцыя і Чырвоны Крыж“, „Чырвоны Крыж і Ахова Мацярынства і Млядзенства“ і г. д. Перад паветрана-хэмічнай інсцэніроўкай у Воршы правялі шырокі сход ячэйкі з дакладам доктара: „Як ратавацца ад атрутных газаў“.



Гурток Першай Дапамогі пры клюбе чыгуначнікаў (Ворша).

Арганізавалі ў клюбе масавую лекцыю: „Аб шкоднасьці прастытуцыі“; у бліжэйшы час будзе арганізавана лекцыя з дыапозытывамі: „Аб шкоднасьці п'янства“. Ячэйка арганізавала яшчэ новы Гурток Першае Дапамогі. Правялі лётарэю і выкарысталі адну кіно-фільму, што дало разам каля ста руб. прыбытку. Намечаны на 2 месяцы плян працы выканалі цалкам. Вылучылі на адным з сходаў групу садзейнічаньня савету сацыяльнай дапамогі Ахматмладу. З 35-ці сяброў ячэйка вырасла да 60-ці з лішнім чалавек. Праца ячэйкі ідзе поўным ходам. Актыўнасьць вялікая.

**Ланін.**

г. Ворша, Акруговы К-т
Чырвонага Крыжу

# Анатамічна-хімічны габінэт
## Менскага Акруговага К-ту Чырвонага Крыжу.

Доўгі час Менскі Акр. Камітэт Чырвонага Крыжу зьбіраўся адчыніць свой габінэт, у якім магчыма было-б праводзіць працу з гурткамі Першае Дапамогі і Саніт. Дружынамі. У гэтым годзе к „Тыдню Абароны“ ён быў урэшце адчынены. За кароткі тэрмін існаваньня гэтага габінэту, у ім ужо адбылося



Анатамічна-хімічны габінэт Менскага Акр. Камітэту.

шмат заняткаў з Гурткамі Першае Дапамогі; слухачы гурткоў, больш чым дзе-небудзь у другім мейсцы, мелі магчымасьць карыстацца тут усялякімі неабходнымі для іх матар‘яламі і інш. наглядными падручнікамі. Тут ёсьць і Сан. куток з адпаведнымі матар‘яламі і падручнікамі, хімічны куток з належнаю

літаратураю і процігазамі ўсіх абразцоў, пачынаючы з самага першага прымітыўнага; куток жанчыны і інш.

Ёсьць добры шкілет, які першы час, да канчатковага адчыненьня габінэту, палохаў наведчыкаў Акр. К-ту (з прычыны адсутнічаньня належнага памяшканьня прыходзілося ставіць шкілет у канцэлярыі Акругкому).

Трэба згадзіцца, што арганізацыя анатам.-хімічнага габінэту паменшыла затрачваньне энэргіі пры занятках, як лектароў, таксама і слухачоў.

Прымаючы пад увагу вялікую карысьць гэтага габінэту, які ў Беларускім Т-ве Чырвонага Крыжу Беларусі зьяўляецца першым, шчыра радзім і інш. Камітэтам пайці за нашым прыкладам.

Каштоўнасьць габінэту па нашых падрахунках не перавышае 300 рублёў.

**Ф. Кусьцікаў.**

---




Менская сандружына на дэмонстрацыі XI-годзьдзя Кастрычніка.

# Наказ Чырвонага Крыжу.

*(Полацак).*

Ячэйка Чырвонага Крыжу пры N роце сувязі парашыла набыць для чырвонаармейцаў—сяброў Чырвонага Крыжу, якія ад'яжджаюць у водпуск,—сан. літаратуру. Але дзеля таго, што сваіх сродкаў ячэйка ня мела, дык зьвярнулася за дапамогаю у Полацкі Акр. Камітэт Чырв. Крыжу. Апошні пашоў насустрэч і выдаў за свой кошт 40 экз. рознай санітарнай літаратуры.

На ўрачыстым сходзе Сакратар Камітэту тав. Курганаў, раздаючы літаратуру, каротка расказаў чырвонаармейцам, якія едуць на вёску, аб іх задачах у справе барацьбы за здаровы быт сялянства. Адпускнікі абяцалі выканаць наказ Чырвонага Крыжу.

# Ажыўленьне працы.

Нарэшце, пасьля летніх вакацый студэнтаў і тае звычайнай акадэмічнае таўканіны, якая заўсёды бывае ў пачатку навучальнага году, узялася за працу ячэйка Чырвонага Крыжу пры Мэдфаку Белар. Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Згодна арганізацыйна-перавыбарчага пляну Пралетстуда, зроблены перавыбары бюро ячэйкі. На агульным перавыбарчым сходзе сяброў ячэйкі Чырвонага Крыжу, бюро адчыталася ў сваёй працы; вынікі здавальняючыя, хоць і былі ўмовы ня зусім добрыя для масавай працы. Лік сяброў ячэйкі за год павялічыўся на 25—30 проц., актыўнасьць значна павялічылася. Як адна з недарэчнасьцяй, гэта запазычнасьць ячэйкі па сяброўскіх узносах, і гэта зьявішча можна тлумачыць кепскім матар'яльным становішчам студэнтаў. Цяпер, з павялічэньнем стыпэндый, можна думаць, што запазычанасьць будзе ліквідавана. Новы склад бюро прымае захады да ўцягненьня больш студэнцтва ў сябры ячэйкі; за два тыдні новых сяброў запісана больш 60 чалавек; вырашана зьвярнуць больш увагі на працу ў падшэфнай

**Нашы актывістыя.**



Тав. Вяржбіцкі—выдатны працаўнік Чырвонага Крыжу сярод студэнцтва.

вёсцы і разгарнуць шырэй самадзейнасьць сяброў па кіраўніцтву гурткамі першай дапамогі.

Па той зацікаўленасьці, якую выказваюць сябры-студэнты да грамадзкай працы, можна спадзявацца на значнае пашырэньне працы ячэйкі.

Пралетарскі студэнт! ад цябе чакае рабочы і селянін культасьветнай нарады! Слова за табой!

Сакратар ячэйкі **А. Вяржбіцкі.**

# Бабруйская санітарная дружына ў камсамольскіх манэўрах.



8 чэрвеня а 6 гадзіне ўвечары, па сканчэньні заняткаў у сан. дружыне было абвешчана, што на заўтра, у суботу а 5-й гадзіне выходзяць камсамольцы на манэўры. Патрабуюць 24 санітарак. Ня здолеў Сакратар К-ту скончыць аб гэтым сваю прамову, як пачаўся крык: „запішэце мяне, запішэце мяне". Гэткім чынам на працягу некалькіх мінут запісь была скончана, пры чым запісалася значна больш, чым трэба было. З запісаўшыхся выбралі найбольш здаровых, нагрузілі іхнія сумкі ўсім патрэбным і загадалі прыйсьці на заўтра акуратна на пункт збору.

9-га чэрвеня сан. дружына прыйшла ў час і разам з камсамольцамі пайшла ў паход. Усю дарогу прарабіла як сьлед. На месца прыйшлі а 2 гадзіне ўначы. Адразу, не адпачываючы, агледзелі і перавязалі ўсіх пацярпеўшых (галоўнае—пацёртыя ногі). Камсамольцы былі вельмі задаволены дапамогай і крычалі: „ура, чырвоныя сёстры!"

Пераначавалі ў лесе, падняліся а 6-й гадзіне, пад'елі і далей у паход. Пачалося наступленьне і сан. дружыны арганізавалі пункты першае дапамогі па ротах і батальёнах.

А 1-й гадзіне чуваць крык: „ура"—чырвоныя перамаглі! Усе сабраліся ў адно месца. Сёстры агледзелі ўсіх „параненых", зрабілі некалькі перавязак.

Калі Сакратар Акруговага К-ту ЛКСМБ пачаў падводзіць ітогі, дык з задаваленьнем адзначыў удзел сан. дружыны Чырвонага Крыжу і прызнаў, што яна добра выканала ўскладзеныя на яе абавязкі.

З радасьцю выслухалі гэтае прызнаньне сёстры і тут-жа абяцалі з гэткай-жа ахвотай працаваць і на будучых манэўрах.

**Нэйман.**





Віцебская сан. дружына перад ад'ездам па практычныя занияткі ў полі.

# Удзел Чырвонага Крыжу ў паветрана-хэмічнай абароне г. Воршы.

Пад час інсцэніроўкі ўся Ворша і ж. д. вузел былі як-бы поўны Чырвоным Крыжам. Усюды мільгалі павязкі са знакам Чырвонага Крыжу, касынкі і ранцы дружыньніц, сьцягі Чырвонага Крыжу на аўтамабілях першае дапамогі і над усімі мэдычна-санітарнымі пунктамі, арганізаванымі ў лекавых установах і аптэках гораду.

Усе члены Гурткоў Першае Дапамогі і ўсе каманды санітарных насільшчыкаў былі падпарадкаваны адзінаму кіраўніцтву Штаба Чырвонага Крыжу.

На кожным рагу вуліц дзяжурылі ў рэзэрве каманды санітарных насільшчыкаў. Сувязь паміж асобнымі камандамі трымалася дружыньніцамі таго зьвяна, якое абслугоўвала даны раён. Начальнікі паасобных зьвеньняў былі прыкамандыраваны да разгорнутых у горадзе трох мэдычна-санітарных пунктаў і праз іх трымалі сувязь штаба з усёй службай на пэрыфэрыі. Па горадзе курсавалі тры аўтамабілі хуткай дапамогі, да якіх бязупынна паднасілі мніма-раненых і газаатручаных. Асобнае зьвяно дружыньніц абслугоўвала вузел чыгункі.

Агулам у інсцэніроўцы прыймалі ўдзел 110 сяброў гурткоў, 31 дружыньніца (з іх 5 камандыраваных Смаленскім Камітэтам Чырвонага Крыжу) і 65 гар. мэд. пэрсаналу на мэд. санітарных пунктах і карэта хуткай дапамогі. Гэтыя 206 удзельнікаў—сяброў Чырвонага Крыжу—былі ўсюды на патрэбным месцы ў момант небясьпекі.

Удзел Чырвонага Крыжу ў інсцэніроўцы даў моцны штуршок у яго агульнай дзейнасьці, прыдбаў Т-ву новы аўтарытэт і папулярызаваў яго ідэі сярод шырокіх працоўных мас Воршы. Як вынік—пасіліўся наплыў членаў у Т-ва.

**Вальфсон.**

## Як у нас на в. Бардзілаўцы ідзе праца.

*(Меншчына).*

Зараз у нас членаў 60 чалавек, у тым ліку 22 жанчыны, пераважна моладзь. Наш грашовы фонд 7 руб. 32 кап. На аптэку выдалі 1 руб. 80 кап. Выбралі новае бюро з 11 чалавек і імкнемся да таго, каб да 1-га лютага 1929 году 70 проц. насельніцтва прыцягнуць у шэрагі Чырвонага Крыжу.

У нас арганізавана 2 Гурткі Першае Дапамогі, у якіх прысутнасьць вялікая. Гэтымі гурткамі кіруюць студэнты Мэдфаку БДУ, якія ўзяліся за працу ўсімі сіламі; праведзена 3 лекцыі з фанаром, які даў Акруговы Камітэт Чырвонага Крыжу.

Сялянства зацікаўлена гэтаю справаю і запісваецца ў ячэйку. У гэтым дапамагаюць студэнты Мэдфаку, якія кожную суботу прыяжджаюць і займаюцца з Гурткамі Першае Дапамогі.

Але ў нас няма кіраўніцтва з боку Райкому Чырвонага Крыжу, а на арганізацыю Райкому Акруговы Камітэт звярочвае мала ўвагі. Па Самахвалавіцкім раёне ёсьць 7 ячэек Чырвонага Крыжу, якія раскінуты па ўсяму раёну і не аб'яднаны.

Акруговы Камітэт толькі цыркуляры шле раённаму доктару, які ад цемна да цемна прымае хворых, а на месца не выяжджае і інструктара не пасылае.

Мы патрабуем тэрмінова арганізаваць Райком Чырвонага Крыжу, не чакаючы перавыбарчай кампаніі.

Мы просім адпусьціць Райвыканкому лесу на студні ў Кайкаўскім С/Савеце, бо вады немагчыма піць той, якая ў нас ёсьць, а сялянства само ня можа пабудаваць.

Старшыня ячэйкі Чырвонага Крыжу **Бачыла.**

# Ткацкая арцель у вёсцы Лошніца на Барысаўшчыне.

Беларускі Чырвоны Крыж у сваёй працы імкнецца між іншым і да таго, каб дапамагчы насельніцтву палепшыць яго эканамічнае і культурнае становішча.

У сувязі з гэтым Барысаўскі К-т яшчэ паўтара гады назад заняўся вывучэньнем пытаньня аб адчыненьні на Барысаўшчыне шэрагу саматужных арцеляй, якія калектывізавалі-б насельніцтва і далі яму заробак.

У асабліва спрыяйных умовах зьявілася вёска Лошніца: яна—цэнтр, навокал якога ляжыць шэраг вёсак з агульным лікам насельніцтва да 15—18 тысяч. Усе яны маюць мала зямлі і многа вольных працоўных рук, якіх няма куды прылажыць; усе яны маюць шмат жанчын—дасьвечаных і мастацкіх ткачых. Прымаючы ўсё гэта пад увагу, было вырашана адчыніць тут ткацка-мастацкую арцель, якая выраблялаб абрусы, ручнікі і іншыя рэчы па нацыянальна-беларускіх узорах. Гэтае пытаньне было праведзена праз шэраг грамадзкіх і дзяржаўных установ—ад раённых да рэспубліканскіх, якія ня толькі зацікавіліся ім, але і прызналі яго важным і адпавядаючым інтарэсам насельніцтва Лошніцкай ваколіцы.

Пры матар'яльнай дапамозе Чырвонага Крыжу і Белсампрамсаюзу, Лошніцкая Ткацкая арцель „Беларуская Ткачыха“ была арганізавана і 21 лістапада г. г. адчынена Сэкратаром ЦВК БССР т. Хацкевічам.

Арцель па ўмовах памяшканьня мае пакуль што 8 варштатаў і аб'еднывае 24 жынчыны. У хуткім часе ёсьць надзея павялічыць лік варстатаў да 12, а як будзе пабудавана ўласнае памяшканьне—дык і яшчэ больш. Трэба даць магчымасьць уступіць у арцель і другім жадаючым, якіх ужо цяпер налічваецца да 200 (паданы заявы).

Пры існуючай ужо арцелі дадаткова арганізавалася група жанчын-вышывальніц у ліку 22 асоб.

Тлумачыць значэньне гэтай арцелі ня трэба,—яно найлепш ахарактарызавана прадстаўніком Ураду, які казаў, што „маюцца ўсе ўмовы, каб Лошніца з яе раёнам праз некалькі год стала сялянскім тэкстыльным цэнтрам і што Урад дапаможа, каб гэта было так“.

**Д-р Сабалеўскі.**

# Праца Камарынскага Раённага Камітэту Чырвонага Крыжу.

*(Гомельшчына).*

У Камарынскім раёне ёсьць 5 ячэек Чырвонага Крыжу, у якіх налічваецца 285 сяброў.

У раёне адсутнічае аптэка, лякарствы выдаюцца больніцай толькі па рацэптах доктара, у сувязі з гэтым Раённы Камітэт Чырвонага Крыжа забясьпечыў усе ячэйкі аптэчкамі, праз якія аказваецца дапамога сябрам Чырвонага Крыжу і бяднейшаму насельніцтву.

Ячэйкі на мясцох займаюцца пытаньнямі санітарнага дабрабыту вёскі, глядзяць за калодзежамі, каб яны былі ў належным парадку. У м. Камарыне Чырвоным Крыжам пабудованы бэтонны калодзеж, які зьяўляецца першым у Камарынскім раёне.

Праводзяцца лекцыі і даклады па пытаньнях мэдыцыны і значэньня Чырвонага Крыжу.

Насельніцтва вельмі зацікаўлена Т-вам Чырвонага Крыжу і ахвотна ўступае ў яго.

Раённым Камітэтам намечана да адкрыцьця яшчэ 3 ячэйкі, якія знаходзяцца ў стадыі афармленьня.

Дрэннае становішча з арганізацыяй Гуртка Першай Дапамогі, бо больніца знаходзіцца на адлегласьці 10 вёрст да бліжэйшай ячэйкі. Але ў бліжэйшым часе ў м. Камарыне адчыніцца фэльшарскі пункт і тагды можна будзе арганізаваць Гурток Першай Дапамогі.

Ня зусім добра стаіць справа адносна кіраўніцтва Раённым Камітэтам з боку Акруговага Камітэту,—апошні мала забясьпечвае нас адпаведнай літаратурай.

**Зарэцкая.**

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Справаздача аб дзейнасьці Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту БССР (за 1927-1928 г.).

Беларускае Т-ва Чырвонага Крыжу за апошнія два гады значна вырасла. У той час, калі яшчэ ў пачатку 1926 г. Т-ва ня мела амаль ніводнае выбарчае арганізацыі, а яго Цэнтральны Камітэт быў прызначаны ЦВК,—у сучасны момант становішча Т-ва зусім іншае: ня толькі ЦК і Акруговыя К-ты, але ўсе Рай. К-ты зьяўляюцца органамі, абранымі на адпаведных конфэрэнцыях.

Рост Т-ва і яго становішча пры канцы 1928 г.

| Назва акругі | І-я Ўсебеларуская Конфэрэнцыя 1/V—1926 г. | | ІІ-гі Ўсебеларускі Зьезд 1/IV—1928 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Рай. Аддз. | Членаў Т-ва | Рай. Аддз. | Лік ячэек | Лік членаў |
| 1. Менская . . . | 11 | 3215 | 17 | 149 | 6157 |
| 2. Віцебская . . . | — | 720 | 11 | 153 | 6934 |
| 3. Магілеўская . . | — | 205 | 13 | 130 | 5441 |
| 4. Бабруйская . . | — | 165 | 15 | 90 | 5050 |
| 5. Полацкая . . . | 2 | 426 | 10 | 51 | 2291 |
| 6. Аршанская . . | 10 | 1052 | 14 | 48 | 3003 |
| 7. Мазырская . . | — | 200 | 10 | 57 | 2193 |
| 8. Гомельская . . | — | — | 9 | 101 | 4020 |
| 9. Дарожны К-т зах. чыгунак . . . | — | — | — | 18 | 1200 |
| Усяго . . | 23 | 5983 | 99 | 797 | 36109 |

Па прыблізным і няпоўным данным, маючымся ў ЦК, рост ліку членаў Т-ва за 5 месяцаў, з 1-га траўня 1928 г. па 1-ае кастрычніка 1928 г., павялічыўся на 600 членаў (з 36109 на 1/V да 42000 на 1/X).

Сацыяльнае і партыйнае становішча арганізацыі прадстаўляецца ў сучасны момант у наступным выглядзе (па няпоўным данным):

| Сацыяльны склад | |
|---|---|
| Рабочых | 5672 |
| Сялян | 7180 |
| Служачых | 10767 |
| Чырвонаарм., вучняў і інш. | 4948 |

| Партыйнасьць | |
|---|---|
| Членаў КП(б)Б | 3180 |
| Членаў КСМ | 2964 |
| Беспартыйных | 27661 |

## Зьмест працы.

А) Побач з колькасным ростам вырасла якасьць работы Т-ва. У нізох вырас актыў, налічваючы каля 3000 чал., які працуе ў ячэйках, Гурткох Першае Дапамогі і Рай. Аддзяленьнях, выяўляе сваю самадзейнасьць на месцы ў справе паляпшэньня санітарна-бытавых умоў вёскі, вайскова-санітарнай падрыхтоўкі, сан. асьветы і г. д. Гэта знаходзіць сабе падцьвярджэньне ў шырокім разьвіцьці ліку Гурткоў Першае Дапамогі і асабліва ў ліку ўстаноў, якія ўтвораны ініцыятывай ячэек і рай. К-таў.

За час 1926-1928 г. ячэйкамі было арганізавана каля сотні ўстаноў наступнага характару:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Вэн. дыспансэраў (сталых і перасоўных) | 4 |
| 2. | Вяскоў. туб. дыспансэраў | 2 |
| 3. | Зуб. габінэтаў для школьн. і піанэраў | 2 |
| 4. | Перасоўных Зуб. Габін. для вёскі | 5 |
| 5. | Дзіцяч. кансультац. | 5 |
| 6. | Перасоўн. сан. выставак | 1 |
| 7. | Дзіц. праф. амбулятор. | 1 |
| 8. | Зуб. тэхн. лябарат. | 1 |
| 9. | Дамоў адпачынку для піанэраў | 5 |
| 10. | Дзіцяч. пляцовак | 3 |
| 11. | Студняў | 30 |
| 12. | Ясьляў | 22 |
| 13. | Лазьняў | 11 |
| 14. | Вочных атрадаў | 1 |
| 15. | Радз. прытулкаў на вёсцы | 1 |
| 16. | Вясковых пляцовак | 1 |
| | Разам | 94 |

Б) Разьвіцьцё дзейнасьці Т-ва па аздараўленьні быту працоўных знайшло сваё выражэньне таксама ў пастанове ЦК адкрыць рад гарбатняў. Мэта гарбатняў—барацьба з алкагалізмам і ўтварэньне базы для мэдычна-харчовых пунктаў.

У першую чаргу намечана да адкрыцьця 5 гарбатняў: у Менску, Віцебску, Бабруйску, Полацку і Барысаве; паступова гарбатні будуць адкрывацца і ў іншых гарадох.

Бабруйскаму і Полацкаму К-там ужо адпушчаны грошы, згодна прадстаўленых каштарысаў, і да 10-цігодзьдзя БССР там будуць адкрыты гарбатні.

ЦК прыймаліся меры да ўзмацненьня работы нізавых ячэек Т-ва ў галіне барацьбы з антысанітарнымі драбніцамі быту. Гэта знайшло свой адбітак у арганізацыі сіламі актыву гурткоў абсьледваньняў сялянскіх двароў, сан. гутарак, лекцыяў і непасрэднай санітарна-гігіенічнай дапамозе найбольш патрабуючаму насельніцтву (выдача мэдыкамэнтаў, літаратуры практычных рад і інш.).

Абапіраючыся на школу мэд. сясьцёр, ЦК арганізаваў сёлета атрад воспа-прышчэпнікаў у складзе 20 чалавак, якія пасьля адпаведнай падрыхтоўкі былі накіраваны на вёску для абслугоўваньня сялян. Зроблена імі некалькі дзесяткаў тысячаў прышчэпак воспеннага дэтрыту.

Апрача непасрэднай работы па воспапрышчэпліваньню, камандыраваныя на вёску таварышы правялі вялікую працу па прапагандзе ідэй Чырвонага Крыжу, арганізацыі яго ячэек і па сан. асьвеце.

У якасьці выдатнага дасягненьня неабходна яшчэ падкрэсьліць арганізацыю Цэнтральным К-там „Паліклінікі хваробаў зубоў, сківіц і поласьці роту“ ў г. Менску. Гэтая паліклініка мела вялікае значэньне ў барацьбе з прыватнай практыкай, але галоўнае яе значэньне тое, што яна паслужыла базай да арганізацыі Дзяржаўнага Одонтолёгічнага Інстытуту. Патрачаны на Паліклініку параўнаўча нязначныя сродкі—усяго каля 4000 руб.; з гэтае сумы каля 2000 руб. Одонтолёгічны Інстытут зьверне ЦК за абсталяваньне.

---




Гуртэк Першай Дапамогі м. Высачаны
(Віцебшчына).

## Масавая санітарная падрыхтоўка працоўных.

Галоўнай галінай працы, якой Беларускі Чырвоны Крыж займаўся ў апошні час—была масавая санітарная падрыхтоўка. Таварыства прыступіла да гэтае працы ў 1927 годзе і цяпер дасягненьні маюцца вельмі значныя.

У лічбах падрыхтоўка працоўных да санітарнае абароны выразілася наступна:

| НАЗВА АКРУГІ | Колькасьць арганізаваных гурткоў і ахопленых імі сяброў | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | На 15/V—28 г. | | Рост за летні пэрыяд | | Маецца на 15/X | |
| | Гурткоў | Сяброў іх | Гурткоў | Сяброў іх | Гурткоў | Сяброў іх |
| 1. Менская | 145 | 3238 | 25 | 500 | 170 | 3738 |
| 2. Віцебская | 80 | 1852 | 16 | 320 | 96 | 2172 |
| 3. Гомельская | 70 | 2090 | 30 | 600 | 100 | 2690 |
| 4. Магілеўская | 52 | 1658 | 54 | 1080 | 106 | 2738 |
| 5. Бабруйская | 41 | 925 | 24 | 480 | 65 | 1405 |
| 6. Полацкая | 48 | 1548 | 15 | 300 | 63 | 1848 |
| 7. Аршанская | 42 | 1187 | 33 | 660 | 75 | 1847 |
| 8. Мазырская | 37 | 625 | 9 | 180 | 46 | 805 |
| 9. Дарожны Кам. Зах. Чыгунак | 9 | 351 | 5 | 100 | 14 | 451 |
| Усяго | 524 | 13482 | 211 | 4220 | 735 | 17694 |

Апрача таго, за мінулую зіму арганізавана 4 курсы чырвоных сясьцёр з праграмай, дапасаванай на вайсковы час.

З актыву Гурткоў Першае Дапамогі арганізуюцца Санітарныя Дружыны. Па пляну на бягучы год было арганізавана 12 сан. дружын. Арганізацыя іх працякала нармальна, і ўсе сан. дружыны ўжо аформлены, за выключэньнем Чэрвенскай, дзе ёсьць недахоп людзей, якія прайшлі належны курс у Гуртках Першае Дапамогі.

Разьмеркаваньне курсаў сясьцёр вайсковага часу і Сан. Дружын па акругах наступнае:

| НАЗВА АКРУГІ | Курсы мэд. сясьцёр вайсковага часу | | Сан Дружыны | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | У іх | | |
| | Кольк. | Кольк. навуч. | Колькасьць друж. | Кольк. аддз. | Кольк. зьвеньевых сан. пунктаў | Колькасьць чалавек |
| 1. Менская | 1 | 95 | 4 | 12 | 36 | 492 |
| 2. Віцебская | 1 | 50 | 2 | 6 | 18 | 246 |
| 3. Бабруйская | 1 | 23 | 2 | 6 | 18 | 246 |
| 4. Гомельская | 1 | 30 | 1 | 3 | 9 | 123 |
| 5. Магілеўская | — | — | 1 | 3 | 9 | 123 |
| 6. Аршанская | — | — | 1 | 3 | 9 | 123 |
| 7. Полацкая | — | — | 1 | 3 | 9 | 123 |
| Разам | 4 | 198 | 12 | 36 | 108 | 1476 |

### 3-хгадов. школа мэд. сясьцёр.

З пачатку 1928 г. прыступіла да заняткаў арганізаваная ЦК Бел. Чырв. Крыжу Школа мэд. сясьцёр. За справаздачны тэрмін быў утвораны 2-і курс і зроблен новы набор студэнтак на 1-ы курс.

Па вопыту першага сяместра заняткаў відаць, што пасьпяховасьць у школе здавальняючая. Усе 100% студэнтак здалі максымум зачотаў і пераведзены на 2-і курс. Заняткі праводзяцца пад кіраўніцтвам прафэсуры БДУ і пэдагагічных сіл г. Менску.

Новы набор зроблен пры актыўным удзельнічаньні Акруговых і Рай. К-таў Чырвонага Крыжу. Нанова прыняты на 1-ы курс 92 чал.

## Сацыяльны і партыйны склад 1 і 2 курсаў.

| Сацыяльнае становішча | 1-ы курс | 2-і курс | Усяго | % % | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Работніц і дзяцей рабочых . | 56 | 43 | 99 | 4,4 | З іх: раб. ад станка 66 |
| 2. Сялян. бедн. і батрач. . . | 17 | 14 | 31 | 7 | |
| 3. Служ. і іх утрыманцаў . . | 12 | 33 | 45 | 24,7 | З іх: батрачак . . 9 |
| 4. Дзяцей пэнсыянэраў і інш. . | 5 | 2 | 7 | 3,9 | |
| Усяго . | 90 | 92 | 182 | 100 | |

| Партыйнасьць | 1-ы курс | 2-і курс | Усяго | % % |
|---|---|---|---|---|
| 1. Членаў і кандыдатаў КПБ. . | 1 | 8 | 15 | 8,24 |
| 2. Членаў ЛКСМБ . . . | 34 | 27 | 61 | 33,5 |
| 3. Беспартыйных . . . . | 49 | 57 | 106 | 58,26 |
| Усяго . . | 90 | 92 | 182 | 100 |

## Нацыянальны склад школы:

| Нацыянальн. | на 1 курсе | З іх<br>На 2 курсе | Усяго | % % |
|---|---|---|---|---|
| Беларусаў . . . . . | 51 | 49 | 100 | 55,0 |
| Яўрэяў . . . . . . | 33 | 38 | 71 | 39,9 |
| Расейцаў . . . . . | 3 | 2 | 5 | 2,7 |
| Іншых . . . . . . . | 3 | 3 | 6 | 3,3 |
| Усяго . . . . | 90 | 92 | 182 | 100 |

ЦК выдае школе 110 стыпэндый па 20 руб. і ЦП Саюзу МСП—2 стыпэндыі санітаркам.

Сацыяльны склад стыпэндыятак ЦК і саюзу МСП:

| | 1 курс | 2 курс | Усяго |
|---|---|---|---|
| Работніц (санітарак 17) | 41 | 31 | 70 |
| Сялянак і батрачак . . | 13 | 9 | 22 |
| Служ. і дзец. служ. (з іх пэнс. 3) . . . . | 8 | 14 | 22 |
| | 62 | 54 | 116 |

Партыйны склад стыпэндыятак ЦК:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Член. КП(б) . . . . | 6 | 7 | 13 |
| К С М . . . . . . | 28 | 23 | 51 |
| Беспарт. . . . . . | 26 | 24 | 50 |
| | 60 | 54 | 114 |

У настуным 1929 г. прыдзецца яшчэ зрабіць прыём з тым, каб сыстэматычна займаліся 3 курсы, лікам да 250—275 чалавек студэнтак, з штогоднімі выпускамі, пачынаючы з 1930 году, па 75—100 чал. чырвоных мэдычных сясьцёр. Усё гэта сьведчыць, што школа мае значэньне першаступнёвай важнасьці.

Але-ж да гэтага часу школа не сустракае належнага падтрыманьня ад адпаведных арганізацый. Найбольш выразна гэтае выяўляецца ў адсутнасьці памяшканьня для яе, інтэрнатаў для студэнтак і аўдыторыяў для заняткаў.

У сучасны момант, у зьвязку з пашырэньнем школы пры новым наборы, пытаньне аб інтэрнаце стаіць вельмі востра. Абавязкова патрэбна ў бліжэйшы час дабіцца таго, каб школа была забясьпечена памяшканьнямі. Стыпэндый таксама недастаткова; ёсьць яшчэ шмат студэнтак, якім неабходна даць дапамогу. ЦК Чырвонага Крыжу з сваіх сродкаў гэтага зрабіць ня можа,—неабходна прыцягнуць да ўдзелу ў гэтай справе Нар. Кам. Асьветы і Нар. Кам. Працы.





**На паходзе ў Віцебшчыне.**

1. Доктарска-харчовы пункт пры ст. Лоўшы.
2. Бяседа сяброў Чырвонага Крыжу з сялянамі на полі.







**На паходзе ў Віцебшчыне.**

1. Чырвоны Крыж даглядае за абедам чырвонаармейцаў. 2 і 3—Санітарная Дружына на паходзе пры працы.

## Бюджэт.

Калі для параўнаньня прыняць 1924 25 год за 100, то на 1928-29 г. бюжэт Беларускага Чырвонага Крыжу павялічыўся больш як у 4 разы:

| Бюдж. год | Сума Бюдж. | % % |
|---|---|---|
| 1924—25 г. | 71.213 р. | 100 |
| 1925—26 г. | 126.889-05 | 178 |
| 1926—27 г. | 160.029-86 | 224 |
| 1927—28 г. | 251.180 | 333 |
| 1928—29 г. | 304 185 | 427 |

У прыбытковай частцы ён мае наступную дынаміку:

| Віды прыбытку | 24—25 г. | 25—26 г. | 26—27 г. | 27—28 г. | 28—29 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Сябр. узносы . | | 1823—61 | 4636—52 | 18813 | 34910 |
| Рэгаліі . . . . | 46609—21 | 75435—21 | 100663—59 | 144427 | 146000 |
| Прыб. ад прадпр . | 16271—21 | 25666—24 | 14453—55 | 18690 | 17900 |
| Розн. паступл. . | 8244—71 | 23963—99 | 21652—33 | 42350 | 73075 |
| | 71213— | 126889—05 | 141405—99 | 224280 | 271885 |

Апошні артыкул прыбытку пацьвярджае актыўнасьць сяброў Т-ва, бо з яго відаць, што „розныя паступленьні" (зборы, ахвяраваньні, прыбыткі ад спэктакляў і г. д.) павялічыліся супроць 1924-25 г. больш як у чатыры разы ў 1926-27 г. і ў 9 разоў у 1928-29.

Яшчэ большы інтэрас мае выдатковая частка бюджэту. Яна паказвае ня толькі павялічэньне і пашырэньне працы Чырвонага Крыжу, але і правільны яе напрамак.

| Артыкулы выдатк. | 24—25 г. | 25—26 г | 26—27 г. | 27—28 г. | 28—29 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Агульн. сан. мэд. працы . . . | 33008—97 | 76581—68 | 93505—86 | 196403 | 264852—77 |
| Апарат . . . | 11923—01 | 31989—99 | 28966—28 | 22517 | 36032—23[1]) |
| Стар. залегласьць | 18182 | 8700—06 | 16933—45 | 20560 | |
| | 63113—98 | 127771—73 | 138062—92 | 239480 | 300885 |

[1]) Паказаная тут сума згодна пастановы 2-га Пленуму ад 26-28-X-28 г. павінна быць паменшана на 20%. У сувязі з гэтым сума выдатку на сан-асьветную працу паказаная ў наступнай графе (34165 руб. 03 кап.), адпаведна павялічваецца.

З агульных сум у першую чаргу кідаецца ў вочы павялічэньне процантных выдаткаў на грамадзкую працу і цалкам ліквідаваны доўг ад ранейшых камэрцыйных прадпрыемстваў.

Сума ўтрыманьня апарату адносна да сумы ўсяго бюджэту Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу дае наступны малюнак:

| | Бюджэт | Апарат | % % |
|---|---|---|---|
| 1924—25 г. | 71.213 | 11.923—05 | 16,8 |
| 1925—26 г. | 126.889 | 31.989—99 | 25,2 |
| 1926—27 г. | 160.029 | 28.966—28 | 18,1 |
| 1927—28 г. | 251.180 | 22.517 | 9, |
| 1928—29 г. | 304.185 | 31.557 | 10,3 |

Выдаткі на грамадзкую працу падзяляюцца на наступныя 4 віды:

| Выдаткі | 24—25 г. | 25—26 г. | 26—27 г. | 27—28 г. | 28—29 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Мэд. леч. праца . | 748—80 | 32876—15 | 38766—29 | 23290 | 14331—74 |
| Ахр. здар. дзяц . | 981— | 7675—44 | 16809—95 | 15540 | 14090 |
| Дап. бежанцам і няімушчым . . | 14555— | 9269—91 | 9612—91 | 8000 | 62000 |
| Агульн. аг. прац. | — | — | 6456—44 | 9488 | 7994 |
| Сан. быт. і сан. асьвет. праца . . | 4999— | 5568—32 | 10059—75 | 33360 | 34165—03 |
| Масавая Сан. праца | 8725—17 | 21191—86 | 11800—52 | 106725 | 188072 |
| Разам . | 33008—97 | 76581—63 | 93505—86 | 196403 | 264852—77 |

З гэтага вынікае, што прынцып адмовы ад адчыненьня самастойных установ лекавых Чырвоны Крыж вытрымаў цалкам. Ня гледзячы на тое, што бюджэт з кожным годам павялічваецца, адпускаемыя сумы на лекавую частку паступова скарачаюцца і ідуць, галоўным чынам, на датацыі слабым установым у далёкіх раёнах рэспублікі і на ўтрыманьне атрадаў перасоўнага тыпу, як то: вэнэролёгічных, трахоматозных, зубных і інш.

Па ахове здароўя дзяцей крывая падымаецца, і гэта паказвае, што хоць паволі, але ўсё-ж чырвона-крыжная праца сярод піанэраў на вёсцы ўзмацняецца. Гэта дае магчымасьць нізавым ячэйкам Т-ва бліжэй зьвязацца з сялянскімі масамі па лініі аховы здароўя дзяцей.

Дапамога ўцекачом і асобам, якія трапілі ў нэндзу, разгледжваецца Т-вам, як часовае зьявішча; імкненьне зьменшыць гэты артыкул бюджэту наглядна паказвае крывая, якая спадае ў апошніх каштарысных меркаваньнях да нязначнай сумы.

Асабліва сур'ёзная ўвага зьвернута на санітарна-бытавую і асьветную працу, калі ў 1924-25 годзе на гэтую справу было выдаткована каля 5000 руб. ды й то пераважна на абслугоўваньне гарадзкога насельніцтва, дык наступныя гады даюць рэзкі скачок як ў сэнсе павялічэньня выдаткаваных сум, так і ў сэнсе практычнага іх карыстаньня. Пры гэтым асабліва кідаецца ў вочы самадзейнасьць нізавых ячэек: аздараўляюцца варункі быту рабочых і сялян, будуюцца студні, лазьні, арганізуюцца санітарныя выстаўкі і інш. Гэты від выдаткаў мае прагрэсыўны рост і ў параўнаньні з 1924-25 г. г. павялічыўся ў 7 разоў.

Як адзін з відаў сан.-асьветнай працы, пастаўлена ў самастойную групу Санітарная дзейнасьць. Гэты від працы прадугледжвае гурткі Першай дапамогі, Сан. Дружыны, сюды-ж адносіцца Школа Мэд. Сясьцёр і шэраг іншых сан.-асьветных відаў працы. Прыймаючы 1926-27 год за 100, мы маем павялічэньне ў гэтай галіне ў 1927-28 г. на 215 проц. і ў 1928-29 год на 303 проц.

---



Гурток Першай Дапамогі пры п/к. швэйнікаў (Віцебск).

## Замежная дзейнасьць.

Беларускае Т-ва Чырвонага Крыжу, як міжнародная арганізацыя, якая дзейнічае на падставе міжнароднай Конвенцыі 1864 г., (глядзі Статут Т-ва, зацьверджаны СНК, 11 лютага 1925 г., прат. № 59, § 872)—за справаздачны пэрыяд зьдзесьняла пэўныя функцыі ў напрамку працы за межамі. Праца гэтага роду адбывалася як у сувязі з Выканаўчым К-там Т-ваў Чырвонага Крыжу і Чырвонага Паўмесяцу СССР, так і непасрэдна. Разам в Выканаўчым К-там, Беларускі Чырвоны Крыж за гэты час дамагаўся прызнаньня свайго, як самастойнай чырвона-крыжнай арганізацыі з боку Міжнароднага К-ту ў Жанэве. Гэтая задача была дасягнута на-палову: Міжнародны Камітэт, які раней прызнаваў толькі Расійскі Чырвоны Крыж, вызнаў пасьля пэўнай барацьбы Выканаўчы К-т Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў СССР,—у тым ліку і Беларускі Чырвоны Крыж, як адну са складаных частак апошняга.

За справаздачны пэрыяд былі арганізаваны замежамі аб'яднаныя прадстаўніцтва Беларускага Чырвонага Крыжу і іншых Савецкіх Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў,—у Польшчы, Францыі, Японіі, Нямеччыне і пры Міжнародным Камітэце ў Швайцарыі. Прадстаўніцтвы інфармуюць замежную грамадзкасьць аб дзейнасьці Беларускага Чырвонага Крыжу шляхам зьмяшчэньня адпаведных матар'ялаў у замежных выданьнях, на выстаўках і інш.

Беларускі Чырвоны Крыж у 1927 годзе ўступіў членам у „Міжнародны Саюз Дапамогі Дзецям“ і мае там свайго прадстаўніка; праз апошняга Беларускае Т-ва прыймае ўдзел у Сэсіях памянёнага Саюзу, а праз друкаваныя выданьні Саюзу, высьвятлае справу дзіцячай дапамогі ў БССР.

Ц. К. Бел. Чырвонага Крыжу, падтрымліваючы сувязь з замежнымі чырвона-крыжнымі Таварыствамі, выслаў пад час землятрасеньня ў Японіі і Юга-Славіі 500 руб. дапамогі пацярпеўшым.

Значная праца праведзена Беларускім Чырвоным Крыжам у напрамку дапамогі дзецям работнікаў і бяднейшых сялян Заходняй Беларусі. ЦК пераслаў на падтрыманьне дзіцячых устаноў Заходняй Беларусі звыш 6600 рублёў і мае адтуль за гэта шэраг удзячных лістоў.

У кастрычніку бяг. году па просьбе беларускіх настаўніцкіх арганізацый Латвіі, ЦК Бел. Чырвонага Крыжу выслаў для бяднейшых вучняў тамтэйшых беларускіх школ школьных падручнікаў і кніг на суму 2300 рублёў. Выдатным актам сувязі Беларускага Чырвонага Крыжу зьявілася камандыроўка

(у ліпені-жніўні) Старшыні ЦК тав. Барсукова на Міжнародную Выстаўку Сацыяльнай Гігіены ў Парыжу і перамаўленьні яго з Прадстаўнікамі Лігі Чырвоных Крыжоў.

Да дзейнасьці Цэнтральнага Камітэту Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу ў галіне замежнай працы трэба аднесьці абарону ім матар'яльных інтарэсаў грамадзян БССР у тых дзяржавах, з якімі Савецкі Саюз ня мае нармальных дыплёматычных і консульскіх зносін. Родныя тых асоб, якія былі забіты на імпэрыялістычнай вайне, як салдаты амэрыканскай арміі, родныя вэтэранаў гэтай-жа вайны ў амэрыканскай арміі, усе тыя грамадзяне БССР, якія мелі застрахаваных сваякоў на амэрыканскіх шахтах, заводах і фабрыках,—усе яны маюць права атрымаць належныя ім грошы ад амэрыканскага ўраду.

ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу вядзе ўсе гэтыя справы бясплатна. Згодна даных Аддзелу Замежнай Дапамогі, усяго да 1 сьнежня бяг. году паступіла адпаведных заяў ад грамадзян БССР і ўзьнята спраў—622. З закончаных спраў—13 асобам прысуджана страхавая прэмія за забітых у амэрыканскай арміі, салдат—родных грамадзян БССР, на суму да 60000 доляраў; 5-м асобам—быўшым салдатам амэрыканскай арміі, прысуджаны спэцыяльны бонус на суму 3750 доляраў; пажыцьцёвых пэнсый прысуджана 8-мі асобам—па 15 і 30 доляраў штомесячна. Адшукана ў Амэрыцы 30 асоб родных грамадзян БССР, якія страцілі з імі сувязь.



1-ы выпуск Чырвоных Сясьцёр пры панчошнай фабрыцы імя 1-га мая (Віцебск).

## Сувязь з брацкімі Чырвонымі Крыжамі і Паўмесяцамі СССР.

За справаздачны пэрыяд ЦК Чырвонага Крыжу падтрымліваў цесную сувязь з брацкімі арганізацыямі Савецкага Саюзу. Гэтая сувязь выражалася як у абмене вопытам у працы, так і ва ўзаемнай матар'яльнай падтрымцы. З прычыны стыхійных бед у Арменіі, Азэрбайджане і Грузіі,—Беларускі Чырвоны Крыж паслаў Чырвоным Крыжам і Паўмесяцам гэтых краін звыш 1000 руб. дапамогі. У сваю чаргу Беларускі Чырвоны Крыж атрымаў ад Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў СССР (Украіны, Туркменістана, Арменіі, Азэрбайджана і Узьбекістана)—3000 руб. дапамогі.

## Далейшыя задачы.

У сувязі з колькасным і якасным ростам, ускладняюцца далейшыя задачы, якія стаяць перад Чырвоным Крыжам.

Галоўная задача, якую Т-ва павінна сыстэматычна выконваць—гэта вайскова-санітарная падрыхтоўка працоўных. На падставе ўжо дасягнутых вынікаў, неабходна гэтую работу шырэй разгарнуць з тым, каб усё насельніцтва было гатова да санітарнае абароны. Сетку Гурткоў Першае Дапамогі неабходна пашырыць настолькі, каб ва ўсіх сельсаветах, пры ўсіх прадпрыемствах, установах, жактах і мэд. пунктах былі арганізаваны Гурткі Першае Дапамогі. Неабходна значна пашырыць сетку Санітарных Дружын і палепшыць якасьць іх падрыхтоўкі: Санітарныя Дружыны павінны быць забясьпечаны насілкамі, працівагазамі, сан. сумкамі і інш. Асаблівую ўвагу трэба зараз-жа надаць утварэньню запасу шпітальных ложак і доктарска-харчоўных пунктаў. У гэтую справу неабходна ўцягнуць шырокія колы грамадзкасьці і ўсе арганізацыі Т-ва ня мясцох.

На працягу 1928—29 г. трэба правесьці кампанію збору сродкаў на пабудову санітарнага самалёту. У зьвязку з вялікімі посьпехамі авіяцыі і хіміі, вялікае значэньне санітарнага самалёту для Беларусі і для Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу відавочны.

Неабходна арганізаваць вайскова-санітарны транспарт, аўтамабільны, водны (маторныя лодкі) і інш. Часткаю такі транспарт маецца ў Т-ве: аўтамабіль і 2 маторныя лодкі ў Гомелі, якія эксплёатуюцца на гаспадарчым разрахунку. Маторныя лодкі неабходна мець у кожнай акрузе, дзе ёсьць адпаведныя рэкі і магчымасьць выкарыстаць іх на гаспадарчым разрахунку.

Другой грунтоўнай задачай Т-ва зьяўляецца барацьба за ўздым культурнасьці шырокіх колаў насельніцтва. Гэтая праца павінна шырэй разгортвацца на вёсцы і знаходзіць свой выраз

у далейшым будаўніцтве лазьняў, студняў, санітарным наглядзе, сан.-асьвеце, у барацьбе супроць алкагалізму і інш.

За мінулы час Т-ва мае шэраг дасягненьняў у гэтай справе. Вялікую дапамогу пры гэтым аказваюць таварышы, прайшоўшыя падрыхтоўку ў Гурткох Першае Дапамогі. На вёсцы, дзе Гурткі добра працуюць ужо відаць, што сябры іх зьяўляюцца добрымі праваднікамі ідэй санітарнай культуры сярод сялянства.

ЦК прадпрыняў крокі да арганізацыі гарбатняў у некаторых акругах. Гэтыя гарбатні маюць сваёй мэтай, з аднаго боку барацьбу з п'янствам, шляхам прадстаўленьня сялянам, якія прыяжджаюць на рынак, культурнага адпачынку, з другога боку гэтыя гарбатні будуць зьяўляцца базаю для разгортваньня доктарска-харчоўных пунктаў для ўцекачоў і інш. у вайсковы час.

Адносна школы мэд. сясьцёр трэба, каб яе забясьпечылі памяшканьнямі як для інтэрнатаў, так і для аўдыторый. Неабходна каб НКАЗ уключыў у свой бюджэт на 1929—30 год утрыманьне школы з тым, каб увесьці яе ў агульную сетку навучальных устаноў.



Гурток Першай Дапамогі № 2 пры Віцебскім Савеце Саматужнікаў.

# Рэзалюцыі 2-га Пленуму Цэнтральнага Камітэту

## А) Па справаздачнаму дакладу Прэзыдыуму ЦК Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу аб яго дзейнасьці з 7 мая па 25 кастрычніка 1928 году.

Заслухаўшы справаздачны даклад Старшыні ЦК т. М. І. Барсукова аб працы Прэзыдыуму, 2-гі Пленум ЦК ухваляе агульную лінію працы Прэзыдыуму і адзначае наступнае:

1) Ня гледзячы на цяжкія варункі, у якіх прыходзіцца працаваць школе мэдычных сясьцёр, апошняя і далей пашыраецца шляхам арганізацыі новага прыёму студэнтак. Сацыяльны склад студэнтак, прынятых на першы курс, цалкам адказвае тым задачам, якія ставіць прад сабою школа, як навучальная ўстанова, якая падгатаўляе работніц і бяднейшых сялянак для адказнай работы па абслугоўваньні працоўных БССР першай мэдычнай дапамогай.

2) Упяршыню зроблены вопыт выкарыстаньня пад час летняга пэрыяду студэнтак Школы сясьцёр для патрэб санітарнай арганізацыі па лініі прышчэпліваньня воспы. Гэтым самым зроблены першы пачын па ўвязцы тэорытычнага выкладаньня з будучай практычнай дзейнасьцю.

3) Закончана арганізацыя Паліклінікі па зубных хваробах і апошняя перадана Нар. Кам. Аховы Здароўя ў выглядзе асновы будучага Одонтолёгічнага Інстытуту—вышэйшага навукова-дасьледчага і навучальнага цэнтру па лячэньні зубоў у БССР.

4) Праведзена падрыхтоўчая праца па дэцэнтралізацыі бюджэту Цэнтральнага Камітэту.

5) Упяршыню Беларускі Чырвоны Крыж удзельнічаў на Міжнародным Конгрэсе па сацыяльнай гігіене, дзе яго прадстаўніком тав. Барсуковым быў зроблены даклад і арганізаваны куток, які ілюстраваў працу Цэнтральнага Камітэту.

6) Былі пасланы падручнікі і школьныя кнігі для бяднейшых дзяцей, якія навучаюцца ў беларускіх школах у Латвіі.

7) Была праведзена значная праца ў галіне санітарнай абароны, а таксама ў комсамольскіх манэўрах.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя дасягненьні, трэба адзначыць, што летні пэрыяд, у сувязі з шэрагам об'ектыўных прычын,

адмоўна адбіўся, як на працы Прэзыдыуму ЦК, так і на масавай працы Таварыства па ўцягненьні новых сяброў Т-ва і па ўзмацаваньні грамадзкай дысцыпліны ў акруговых, раённых і нізавых органах; у сувязі з гэтым на мясцох заўважаецца крыху аслаблены тэмп працы ў галіне культурна-бытавых мерапрыемстваў і выкананьня дырэктыў Цэнтральнага Камітэту.

Пленум лічыць, што на цяперашні 1928—29 г. у аснову дзейнасьці трэба палажыць тыя галоўнейшыя задачы, якія падкрэсьліў 2-гі Ўсебеларускі Зьезд Чырвонага Крыжу:

а) узмацненьне нізавой ячэйкі;

б) колькаснае і якаснае ўзмацненьне Гурткоў Першае Дапамогі і Санітарных Дружын;

в) правядзеньне шырокай аздараўляючай працы па ўкараненьні санітарнай культуры на вёсцы.

Дзеля разьвіцьця гэтых галоўнейшых задач, Пленум прапануе Прэзыдыуму ўключыць у плян сваёй працы наступныя асноўныя пытаньні:

1) Пасіліць дзейнасьць Акруговых Камітэтаў па ўцягненьні шырокіх мас працоўных у шэрагі Чырвонага Крыжу, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на вёску.

2) На гурткі Першае Дапамогі і Сан. Дружыны ўскласьці канкрэтныя, практычныя задачы па выкарыстаньні іх у якасьці правадыроў санітарнай культуры. Усталіць жывейшы кантакт паміж ячэйкамі Чырвонага Крыжу і санітарнай арганізацыяй праз супольную працу ў сэкцыях аховы здароўя, саветах сацыяльнай дапамогі і сан. камісіях сельскіх саветаў.

3) Павесьці самую шырокую кампанію па лініі барацьбы з алкагалізмам і рэлігійнымі забабонамі, шляхам выданьня сан. асьветнай літаратуры на нацыянальных мовах. Адным з лепшых сродкаў барацьбы з п'янствам зьяўляецца арганізацыя па рынках і кірмашох агульна-даступных гарбатняў. Апошнія трэба зрабіць таксама цэнтрамі масавай сан. асьветнай і антырэлігійнай прапаганды.

4) Узмацніць Школу мэдычных сясьцёр, стварыць для студэнтак нармальныя варункі для жыцьця і навукі.

5) Надалей аказваць дапамогу бяднейшым дзецям Заходняй Беларусі.

6) Правесьці ў бягучым бюджэтным годзе дзьве кампаніі: па перавыбарах раённых камітэтаў і бюро ячэек і кампанію „Тыдня Чырвонага Крыжу“, пры чым у гэтых дзьвёх кампаніях правадзіць таксама збор на пабудову санітарнага самалёту. Тэрміны акрэсьліць наступныя:

а) перавыбарную кампанію ад 31 сьнежня 1928 г. па 1 лютага 1929 г. і „Тыдзень Чырв. Крыжу“—на вясну 1929 г.

6) „Тыдзень Чырвонага Крыжу“ правадзіць пад лёзунгам шырокіх аздараўляючых мерапрыемстваў практычнага характару ў жыцьці працоўных.

7) Арганізаваць праз ячэйкі Чырвонага Крыжу масавае сьвяткаваньне 10-годзьдзя БССР. Прэзыдыуму ЦК распрацаваць плян гэтага сьвяткаваньня.

8) Распрацаваць формы ўдзелу Чырвонага Крыжу ў надыходзячым 3-м Зьезьдзе вучастковых дактароў.

9) Ухваліць арганізацыю пры ЦК Кніжнай Базы па снабжэньні пэрыфэрыі сан. асьветнай літаратурай.

10) Прыняць масавы ўдзел у перавыбарчай кампаніі Саветаў пад лёзунгам шырокіх мерапрыемстваў па аздараўленьні жыцьця і быту працоўных.

11) Увайсьці ў бліжэйшую сувязь з ЦК КСМ Беларусі з тым, каб апошні з свайго боку зрабіў наказ Акруговым, Раёным Камітэтам і нізавым ячэйкам ЛКСМ аб актыўным удзеле ў працы Чырвонага Крыжу,—у першую чаргу ў намечаных кампаніях.

12) Наступны Пленум склікаць увесну 1929 г.

## Б) Аб бюджэце ЦК.

Заслухаўшы даклад т. Асятрова аб бюджэце Т-ва на 1928—1929 г., II Пленум 2 Созыву Цэнтральнага К-ту Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу адзначае сваечасовае складаньне бюджэту, яго рэальнасьць папярэдніх вылічэньняў і канчатковае пазбаўленьне ад даўгоў.

Пленум пастанаўляе:

1. Бюджэт Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу на 1928--29 г. прыняць у суме 307.437 руб. 58 кап., з якіх па цэнтральнаму—132.782 руб. 58 кап. і па мясцоваму 174.655 руб.

2. Па-за бюджэтам лічыць асобна разервенны фонд ад тэатральных рэгалій у суме 10.100 руб. 56 кап., які накіраваць на ўзмацненьне бюджэтаў слабых акруг.

3. У межах бюджэту стварыць наступныя зьмены:

а) паменшыць выдаткі на ўтрыманьне апарату на 15 проц., адміністрацыйна-арганізацыйных выдаткаў на 20 проц., як па цэнтральнаму, таксама і мясцоваму бюджэту;

б) павялічыць асыгнаваньні на ўтрыманьне Райкамітэтаў за кошт іншых стацей выдаткаў, не скарачаючы выдаткаў Ваенна-Санітарнай працы і сан. будаўніцтва вёскі.

4. Прасіць Выканком Саюзу Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў дадаткова асыгнаваць 7.300 руб. на ўтрыманьне школы мэд. сясьцёр.

Табліца № 1.

## Праэкт бюджэту Беларускага Т-ва

| | ПРЫБЫТКІ | 1928—1929 г. Цэнтрал. | | Мясцовы | Усебелар. | | Кантрольн. лічбы | % % да сумы бюдж. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Дзярж. рэгаліі | | | | | | | |
| | Тэатральныя . . . | — | — | 61000 | 61000 | — | 61000 | 19,8 |
| | Пашпартныя . . . | 7000 | — | — | 7000 | — | 7000 | 2,3 |
| | Транспартныя. . . | 35000 | — | — | 35000 | — | 35000 | 11,4 |
| 2 | Сябр. узносы . . . | — | — | 34910 | 34910 | — | — | 11,4 |
| | Уступн. плата . . | — | — | — | — | — | 29700 | — |
| 3 | Розн. прыбыткі . . . | | | | | | | |
| | Адшук. розных прыбыткаў . . . . | 3730 | — | 19845 | 23575 | - | 32450 | 7,7 |
| | Ад розн. устан. . . | 4000 | — | -- | 4000 | — | 4000 | 1,3 |
| | Самалёт . . . . | — | — | 42000 | 42000 | — | 30000 | 13,6 |
| 4 | Прыб. ад прадпр. | | | | | | | |
| | Гандлёвыя . . . . | — | — | 7700 | 7700 | — | 3100 | 2,5 |
| | Грамадзкія. . . . | 1000 | — | 5500 | 6500 | - | 6500 | 2,1 |
| | Мэдычныя . . . . | — | — | 3700 | 3700 | — | 10500 | 1,2 |
| 5 | Згашэньне суд. . . . | 3300 | — | — | 3300 | — | 3500 | 1,1 |
| 6 | Датацыя выканк. . . | 43000 | - | — | 43000 | - | 74340 | 14 |
| | | 97030 | — | 174655 | 271685 | - | — | — |
| 7 | Рэшта мясц. году . . | 32500 | — | — | 32500 | — | — | 10,5 |
| 8 | Ад мясц. бюдж. . . | 3252 | 58 | — | 3252 | 58 | — | 1,1 |
| | Усяго па бюдж. . . | 132782 | 58 | 174655 | 307437 | 58 | 297090 | — |
| | Балянс . . . | 132782 | 58 | 174655 | 307437 | 58 | 297090 | 100 |
| | Разерв. фонд . . . | 10100 | 56 | — | 10100 | 56 | — | — |

Старшыня ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу **М. Барсукоў.**

Зацьверджаны 2-м Пленумам ЦК
26-28-X—1928 г.

## Чырвонага Крыжу на 1928—29 год.

| | ВЫДАТКІ | 1928—1929 г. | | | | | | Кантрольн. лічбы | | %% да сумы бюдж. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Цэнтрал. | | Мясцовы | | Усебелар. | | | | |
| 1 | Утрым. мэд. лек. устаноў | — | — | 14331 | 74 | 14331 | 74 | 20.000 | — | 4,7 |
| 2 | Піанэр. фонд . . . | — | — | 4040 | — | 4040 | — | 5.540 | — | 1,3 |
| 3 | Ясьлі . . . . . . | — | — | 4750 | — | 4750 | — | 4.000 | — | 1,5 |
| 4 | Дап. дзецям Зах. Белар. | 3000 | — | 2300 | — | 5300 | — | 6.000 | — | 1,7 |
| 5 | Навальн. ліха . . . | 5000 | — | — | — | 5000 | — | 5.000 | — | 1.6 |
| 6 | Дапамога . . . . | 1200 | — | — | — | 1200 | — | 1.200 | — | 0,4 |
| 7 | Фонд Рай К-Т. . . . | — | — | 4000 | — | 4000 | — | 10.000 | — | 1,3 |
| 8 | Сан. будаўн. . . . | — | — | 19313 | 40 | 19313 | 40 | 16.500 | — | 6,3 |
| 9 | Мос-Сан. падрыхт. . . | 56100 | — | 12772 | — | 68872 | — | 83.350 | — | 22,4 |
| 10 | Сан. Фонд . . . . | 40000 | — | 35700 | — | 75700 | — | 42.500 | — | 24,6 |
| 11 | Самалёт . . . . . | 1000 | — | 42500 | — | 43500 | — | 30.000 | — | 14,2 |
| 12 | Апарат . . . . . . | 8399 | 48 | 16734 | 68 | 25134 | 16 | 22.500 | — | 8,2 |
| 13 | Адм. выдаткі . . | 1505 | 60 | 3666 | 60 | 5172 | 20 | 8.000 | — | 1,7 |
| 14 | Арг. гр. выдат. . . . | 3267 | 36 | 7994 | — | 11261 | 36 | 7.000 | — | 3,6 |
| 15 | Выдавецтва . . . . | 5851 | 63 | — | — | 5851 | 63 | 10.000 | — | 1,9 |
| 16 | Згашэн. суд . . . . | — | — | 3300 | — | 3300 | — | 3.500 | — | 1,1 |
| 17 | Разерв. фонд. . . . | 7458 | 51 | — | — | 7458 | 51 | 7.458 | 51 | 2,4 |
| 18 | Дэфіц. мясц. бюдж. . | — | — | — | — | — | — | 17.000 | — | — |
| | Усяго па бюдж.. . . | 132782 | 58 | 171402 | 42 | 304185 | -- | 297.090 | — | — |
| | Рэшта сум . . . . | — | — | 3252 | 58 | 3252 | 58 | — | — | 1.1 |
| | Балянс . . . . | 132782 | 58 | 174655 | — | 307437 | 58 | 297.090 | — | 100 |
| | | — | — | 6847 | 98 | 6847 | 98 | — | | — |

Заг. Граш. Адм. Часткі ЦК **І. Асятроў.**

Табліца № 2.

## Мясцовы бюджэт Беларускага Т-ва

### П Р Ы Б Ы Т А К.

| | | Менск | | Віцебск | | Гомель | | Магілёў | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Каш-тарыс | За-цьвер. | Каш-тарыс | За-цьвер. | Каш-тарыс | За-цьвер. | Каштар. | | За-цьвер. |
| 1 | Сябр. узносы і ўступн. плата . | 4800 | 6000 | 4500 | 4500 | 3176 | 4500 | 5398 | 80 | 5400 |
| 2 | Пры6. ад афяр.. пастан. і інш. . | 2500 | 2500 | 4500 | 4500 | 1745 | 2700 | 2645 | — | 2645 |
| 3 | На самалёт . . . | — | 7500 | 2000 | 8000 | 3640 | 7000 | 1104 | 50 | 5500 |
| 4 | Ад гандл. прад. . | 300 | 300 | 1000 | 1000 | — | — | 4250 | — | 4250 |
| 5 | „ грамад. „ . | — | — | — | — | 1500 | 2000 | — | — | — |
| | „ мэдычн. „ . | — | — | 9000 | — | 2500 | 2500 | — | — | — |
| 6 | Тэатр. рэгаліі . . | 22000 | 22000 | 13000 | 13000 | 8000 | 9000 | 2000 | — | 5000 |
| 7 | Датацыя ЦК м. бюдж. . . | — | — | — | — | — | — | 6250 | 84 | — |
| | Заяўка акруг. . . | 29600 | 38300 | 34000 | 31000 | 20561 | 27700 | 21649 | 14 | 22795 |
| | Кантр. цыфры тэатр. рэгал.. . | 22000 | — | 13000 | — | 9000 | — | 5000 | — | — |
| | Кантр. цыфры свае . . . . | 15800 | — | 21000 | — | 17800 | — | 14250 | — | — |
| | Усяго . | 37800 | — | 34000 | — | 26800 | — | 19250 | — | — |

Старшыня ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу **М. Барсукоў.**

Зацьверджана 2-м Пленумам ЦК
26-28-X—1928 г.

## Чырвонага Крыжу на 1928—29 год.

| Бабруйск | | Полацак | | | Ворша | | Мазыр | | | Гомель Чыгуначны камітэт | | Усяго. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Каштарыс | Зацьвер. | Каштар. | | Зацьвер. | Каштарыс | Зацьвер. | Каштарыс | | Зацьвер- | Каштарыс | Зацьвер. | |
| 4310 | 4310 | 1706 | 55 | 3000 | 2034 | 3500 | 1480 | 65 | 2000 | 1700 | 1700 | 34.910 |
| 1428 | 1800 | 2160 | — | 1200 | 805 | 2500 | 495 | — | 1200 | 800 | 800 | 19.845 |
| 2000 | 4500 | 1000 | — | 3000 | 415 | 3500 | — | — | 2000 | 200 | 1000 | 42.000 |
| — | — | — | — | 500 | — | — | — | — | 1500 | 150 | 150 | 7.700 |
| — | — | — | — | — | 3010 | 3500 | — | — | — | — | — | 5.500 |
| 1000 | 1000 | — | — | — | — | — | — | — | — | 200 | 200 | 3.700 |
| 5000 | 5000 | 2500 | — | 3000 | 2000 | 2000 | 2000 | — | 2000 | — | — | 61.000 |
| — | — | 2551 | 20 | — | 2396 | — | — | — | — | 2600 | — | — |
| 13738 | 16610 | 9917 | 75 | 10700 | 10660 | 15000 | 4475 | 65 | 8700 | 5650 | 3850 | 174.655 |
| 5000 | — | 3000 | — | — | 2000 | — | 2000 | — | — | — | — | 61.000 |
| 12800 | — | 8800 | — | — | 10960 | — | 7300 | — | — | 4850 | — | — |
| 17800 | — | 11800 | — | — | 12960 | — | 9300 | — | — | 4850 | — | 174.560 |

Заг. Граш. Адм. Часткі ЦК **І. Асятроў.**

Табліца № 3.

## ВЫДАТКІ

## Выдаткі мясцовага бюджэту Бела

| Чарговы № | | Менск Каштарыс | | Менск Зацьверджана | | Віцебск Каштарыс | Віцебск Зацьверджана | Гомель Каштарыс | | Гомель Зацьверджана | | Магілёў Каштарыс | | Магілёў Зацьверджана | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | **Мэдычн. устан.** | | | | | | | | | | | | | | |
| | Сталыя мэдычн. | 5300 | — | 4360 | 20 | 1200 | 1200 | 5261 | 01 | 1300 | — | — | — | — | — |
| | Часовыя | — | — | — | — | 10200 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Дзіцячыя | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1089 | 14 | 1089 | 14 |
| 2 | Піанэр.фонд | 1000 | — | 1000 | — | 1000 | 500 | 600 | — | 600 | — | 1400 | — | 400 | — |
| 3 | Ясьлі | 1000 | — | 1000 | — | 1000 | 500 | 500 | — | 500 | — | 980 | — | 500 | — |
| 4 | Дап. дзецям Зах. Белар. | 1000 | — | 500 | — | 1000 | 600 | 350 | — | 350 | — | 500 | — | 350 | — |
| 5 | Навальн.ліха | 1000 | — | — | — | 1000 | — | — | — | — | — | 1000 | — | — | — |
| 6 | Дапамога | — | — | — | — | 500 | — | 150 | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | Сан. будаўн. на вёсцы | 5600 | — | 2500 | — | 3550 | 2500 | 1800 | — | 2500 | — | 2800 | — | 2500 | — |
| 8 | **Вайс.-сан. буд.** | | | | | | | | | | | | | | |
| | В. С. Падрыхт. | 1000 | — | 1400 | — | 3850 | 1400 | 300 | — | 1300 | — | 1500 | — | 1100 | — |
| 9 | В. С. фонд | 3000 | — | 8100 | — | 3350 | 7700 | 2050 | — | 6200 | — | — | — | 3600 | — |
| 10 | Самалёт | 500 | — | 8000 | — | 2000 | 8000 | 3640 | — | 7000 | — | 1104 | 50 | 5500 | — |
| 11 | Утрым. апарату | 2847 | 60 | 2847 | 60 | 3902 | 2682 | 2262 | 40 | 2462 | 40 | 2191 | 50 | 2191 | 50 |
| 12 | Адміністрац. выдаткі | 570 | — | 570 | — | 622 | 622 | 1297 | 59 | 497 | 60 | 1183 | — | 500 | — |
| 13 | Арг. грамад. выдаткі | 1410 | — | 1410 | — | 1500 | 1500 | — | — | 800 | — | 2000 | — | 1000 | — |
| 14 | Фонд Рай К-таў | 3352 | 40 | 1000 | — | — | 500 | 400 | — | 500 | — | 4111 | — | 500 | — |
| 15 | Згашэньне суд. | — | — | — | — | — | — | 1250 | — | 1250 | — | 1250 | — | 1250 | — |
| 16 | Разервны фонд. | 2000 | — | — | — | 2050 | — | 200 | — | — | — | — | — | — | — |
| 17 | Сан. асьвет. праца | — | — | — | — | 1900 | — | 500 | — | — | — | 540 | — | 540 | — |
| 18 | Стыпэндыя школе | — | — | 1100 | — | — | 500 | — | — | 500 | — | — | — | 100 | — |
| 19 | Перападр. урач. | — | — | 500 | — | — | 200 | — | — | 200 | — | — | — | 1000 | — |
| | | 29600 | — | — | — | 38624 | — | 20561 | — | — | — | 21649 | 14 | — | — |
| | Зацьвердж. | — | — | 34287 | 80 | — | 28404 | — | — | 25960 | — | — | — | 21220 | 64 |

Старшыня ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу **М. Барсукоў.**

## руск. Т-ва Чрывонага Крыжу на 1928—29 г.

Зацьверджана 2-ім Пленумам ЦК 26-28-XI—1928 г.

| Бабруйск Каштарыс | Бабруйск Зацьверджана | Полацк Каштарыс | | Полацк Зацьверджана | | Ворша Каштарыс | Ворша Зацьверджана | Мазыр Каштарыс | | Мазыр Зацьверджана | | Чыгун. К-т. Каштарыс | Чыгун. К-т. Зацьверджана | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1140 | 1140 | — | — | 939 | 80 | 1759 | 1759 | 2543 | — | 1103 | 60 | — | — | 11.802 | 60 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 200 | — | — | — | — | — | 882 | — | — | — | 1440 | - | — | — | 2.529 | 14 |
| 475 | 400 | 605 | — | 400 | - | 340 | 340 | 475 | — | 300 | — | 200 | 100 | 4.040 | — |
| 845 | 500 | 815 | — | 500 | — | 625 | 500 | 450 | — | 450 | — | 700 | 300 | 4.750 | — |
| 232 | 100 | 195 | — | 100 | — | 125 | 100 | — | — | 100 | — | — | 100 | 2.300 | — |
| 600 | — | 200 | — | — | — | 100 | — | — | — | — | — | 200 | — | — | — |
| — | — | 100 | — | — | — | 300 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2795 | 2500 | 1085 | - | 2090 | — | 1500 | 2090 | 750 | — | 2093 | 40 | — | — | 18.773 | 40 |
| 1065 | 1100 | 881 | 75 | 900 | — | 1050 | 900 | 552 | — | 600 | — | 1000 | 300 | 9.000 | — |
| 200 | 3600 | 500 | - | 1100 | — | 200 | 2200 | — | — | 1100 | — | 1200 | 2100 | 34.700 | — |
| 2000 | 4500 | 1000 | — | 3000 | — | 415 | 3500 | — | — | 2000 | — | 200 | 1000 | 42.500 | — |
| 2628 | 1743 | 1416 | - | 1260 | — | 1391 | 1391 | 1257 | 18 | 1257 | 18 | 900 | 900 | 16.734 | 68 |
| 402 | 400 | 380 | — | 300 | — | 278 | 278 | 299 | — | 299 | — | 200 | 200 | 3.666 | 60 |
| — | 956 | 340 | — | 700 | — | 928 | 928 | 350 | — | 350 | — | 350 | 350 | 7.994 | — |
| — | 350 | 900 | — | 350 | — | 1583 | 350 | 630 | - | 350 | — | 500 | 100 | 4.000 | — |
| — | — | 500 | - | 500 | — | 300 | 300 | — | — | — | - | — | — | 3.300 | — |
| — | — | 1000 | — | — | — | — | — | 500 | — | — | — | 200 | — | — | — |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 540 | — |
| — | — | — | - | 86 | — | — | 86 | — | — | — | — | — | — | 2.372 | — |
| — | 100 | — | — | 100 | — | — | 100 | — | — | 100 | — | — | — | 1.400 | — |
| 12582 | — | 9967 | 75 | — | — | 11776 | — | 7806 | 18 | — | — | 5650 | — | — | — |
| — | 17389 | — | — | 12225 | 80 | — | 14822 | — | — | 11543 | 18 | — | 5450 | 171.402 | 42 |

Заг. Граш. А дм. Часткі ЦК **І. Асятроў.**

Апарат на 15% і Адм. Арг. выд. на 20% у гэтай табліцы ня зьніжаны і сумы азначаныя лічацца, як арыентыр.

